





АРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

| | | | |
|---|---|---|---|
| № 33 (390) | ГОД VIII | 18 ЖНІЎНЯ 1963 ГОДА | ЦАНА 60 ГР |


# ДЗЕНЬ САКРАТАРА

Быў гэта нармальны будзённы дзень. Здаецца серада. Па загаду галоўнага рэдактара меў я ўзяць інтэрв'ю ў сакратара Ваяводскага камітэта ПАРП. тав. Станіслава Кудлы.

— Інтэрв'ю? — чую знаёмы голас у трубцы тэлефона. — Не, паважаны таварыш, сёння не магу. Адпраўляюся ў камандзіроўку.

Што рабіць? Я ж назаўтра мушу мець гэтае інтэрв'ю! Думкі ляцяць шпарка.

— А ці не мог бы я забрацца з вамі, таварыш сакратар? — кідаю словы ў тэлефонную трубку без надзеі на паспяховы адказ. — Па дарозе маглі б пагутарыць.

— Добра, я згодны. За 5 мінут ад'язджаю.

Кідаю позірк на гадзіннік: 10 мінут дзевятай. Перад сядзібай камітэта ў службовай «Варшаве» чакае ўжо на мяне сакратар.

— У Бельск, — адказвае ён на пытанне шафёра.

Побач мяне яшчэ адзін незвычайны пасажыр — хлапчук, якому не больш 10-ці год.

— Гэта мой сын, — інфармуе сакратар. — Не было з кім пакінуць яго дома. Дык едзе са мною.

У Бельску прыбывае новы пасажыр: старшыня павятовага камітэта для сельскагаспадарчых спраў, сакратар Уладзімір Міхалюк.

— Ну, сакратар, куды нас павязеш, што пакажаш, чым пахвалішся? — сыпле пытанні тав. Кудла.

— А што вас цікавіць?

— Сенажаці, браток, перш за ўсё сенажаці.

Машына імчыцца шашой у напрамку Сямяціч. Спыняемся непадалёк вёскі Андрыянкі. Па абодвух баках шашы, як вокам згледзіш, раскінуўся раўнінны прастор лугоў. Некалькі год таму была тут непраходная дрыгва. Цяпер балота асушана, а сістэма канаваў і перамычак сталася новым элементам у тамтэйшым краявідзе. Чалавек па ўласнай волі можа зараз рэгуляваць узровень вады на сенажацях.

Ідзем уздоўж меліярацыйных равоў. Пад нагамі пажоўклая ад спякоты трава.

— Мала вады ў канавах? — гаворыць сакратар, звяртаючыся да тав. Міхалюка. — Чаму не замкнулі вы заставак на перамычках?

Тав. Міхалюк не знаходзіць адказу.

Тав. Кудла з лёгкасцю юнака выцягвае крокі, апярэджваючы нас абодвух. Раптам спыняецца, нахіляецца над нейкай

(Працяг на стар. 3)




ЗНІШЧЭННЕ ЯЎРЭЯЎ — ФРАГМЕНТ ВЫСТАЎКІ, ЯКАЯ ПАКАЗВАЕ ЗМАГАННЕ БЕЛАСТОЦКАГА НАСЕЛЬНІЦТВА З ГІТЛЕРАЎЦАМІ. ВЫСТАЎКА АДКРЫТА Ў «ДОМЕ ПРАФСАЮЗАЎ» У БЕЛАСТОКУ.

Фота: В. РУДЧЫК

# БЮДЖЭТ ГАЙНАЎСКАГА ПАВЕТА Ў 1963 ГОДЗЕ

У бягучым годзе агульная вартасць інвестыцый для нашага павета выносіць 80 мільёнаў зл. З агульнай сумы на інвестыцыі рад нарадовых прыпадае 26 500 000 зл. Гэта ўзрост інвестыцыйных выдаткаў на 31% у параўнанні з мінулым годам. Гэты інвестыцыйны ліміт прыпадае на жыллёвае будаўніцтва 8,5 млн зл. што дазволіць на пабудову 104 жыллёвых пакояў на агульную плошчу 1590 м². Акрамя таго закладаецца пабудаваць у сырым стане 377 пакояў, агульная плошча якіх павінна мець 5259 м².

Частка, бо 10 350 000 зл інвестыцыйных выдаткаў пойдзе на меліярацыю. Дазволіць гэта на змеліяраванне 1500 га лугоў і паш в павеце. У гэтым годзе будзе закончана будова агранамоўкі ў Нарве. Ад асноў пачнецца будавацца агранамоўка ў Кляшчэлях.

На інвестыцыі ў аб'ёме школ прыпадае сума 5,2 млн. зл. На гэтыя сродкі закончым будову і перадамо ў карыстанне тры школы: у Арэшкаве, Палічнай і Гайнаўцы Акрамя таго плануем пачаць будову васьмікласнай школы ў Кляшчэлях, перадача якой у карыстанне адбудзецца ў 1964 годзе.

У бягучым годзе закончыцца разбудова павятовай бальніцы ў Гайнаўцы. Пабудаваны будзе таксама навальнічны калектар на тэрыторыі горада.

Мадэрнізацыя і разбудова трох асноўных прадпрыемстваў паглыне 21 144 000 зл. Гайнаўскае прадпрыемства дрэваапрацовачнай прамысловасці інвестуе найбольш, бо аж 14 млн зл. Гэтую суму паглыне будова ад асноў сушыльні, кацельні, а таксама сучаснай тракавай га-

(Працяг на стар. 4)

## МОЙ РОДНЫ КУТ



Фота В. МЛЫНЬЧЫК

СУСТРЭЧЫ З КНІГАЙ

# НАД „УСПАМІНАМІ" ЭДУАРДА ПАЎЛОВІЧА

У антыкварыятах Варшавы, Кракава ці Вроцлава можна часам нечакана знайсці не адно цікавае выданне. Нядаўна ў Кракаўскім антыкварыяце прадавец, добра спазнаўшы мой густ, уручыў невялікага фармату кніжку, на вокладцы якой значылася пазалочанымі літарамі: «Успаміны з-над Нёмна і Віліі». Заглядаю далей. Аўтар — Эдуард Паўловіч, а кніга выдадзена кнігарняй Губрыновіча і Шмідта ў Львове ў 1882 годзе. Ужо першае, павярхоўнае, як звычайна ў такіх выпадках бывае, знаёмства са зместам выдання пераконвае, што маю дачыненне з вартай самай вялікай увагі кнігай. У ёй жа ж сустракаю прозвішча Францішка Савіча — аднаго з найбольш выдатных беларускіх рэвалюцыянераў XIX ст. Мала таго, тут нават аўтар прыгадвае ў беларускім арыгінале вершаваны твор Савіча.

«Где глянеш — люде брашчат ланьцугамі,
Где кінеш — слёзы, аж жыты не міло...

— кідаюцца ў вочы радкі верша.

Ні ў падручніках беларускай літаратуры, ні ў больш сур'ёзных навуковага характару выданнях аб Францішку Савічу не ўпаміналася. Толькі нядаўна на яго жыццё і дзейнасць звярнулі ўвагу беларускія даследчыкі Сцяпан Александровіч і Анатоль Смірноў. Спярша, аднак, аб «Успамінах...», аб іх аўтару, дзякуючы якому верш Савіча з'явіўся ў друку ў найбольш поўным выглядзе.

Эдуард Паўловіч належаў да той часткі моладзі, якая намагалася ў асяроддзі віленскіх студэнтаў узнавіць ідэі Міцкевіча і Зана, якая прыйшла на змену «філаматам». Гэтыя гарачыя прыхільнікі навукі, роўнасці і брацтва гуртаваліся вакол Медыка-хірургічнай і Рымска-каталіцкай акадэміі. Як вядома, пасля паўстання 1831 года цар загадаў закрыць Віленскі універсітэт, а з двух яго факультэтаў — медыцынскага і тэалагічнага — утварыць штосьці накшталт вышэйшых навучальных установ. Паўловіч піша, што пасля заканчэння ў 1838 годзе гімназіі ў Слуцку паступіў вольнаслухачом у гэтыя акадэміі. Тут сутыкнуўся з такімі самымі як ён маладымі людзьмі, адчуваючымі вялікую прагу ведаў і сапраўднага сяброў-

(Працяг на стар. 2)

 

# ДЗЕНЬ САКРАТАРА



— Не хлусі, таварыш. Тут не менш 20 цэнтнераў будзе...

(Працяг са стар. 1)

таблічкай. Аказваецца, што гэта вопытныя дзялянкі. Такіх дзялянак тут некалькі. Нейкі гаспадар практычна выпрабоўвае паспяховасць угнойвання сенажацяў рознымі штучнымі угнаеннямі.

— Вось гэта правідлова! Так павінна быць! — узрадавана гаворыць сакратар.

— Бачыце, не ўсё ў мяне так дрэнна, — тав. Міхалюк прабуе з'яднаць сабе сакратара. І сапраўды, твар Станіслава Кудлы расхмурваецца, калі пад нагамі чуе густую, сакавітую, зялёную траву. Але ненадоўга. На шырокім прасторы сенажацяў некалькі старых, мінулагодніх стагоў сена. Далей шматлікія вострававы густой лазы. Гэты вобраз дапаўняюць бясплanaва раскінутыя купы выбранага торфу.

— Гэта ж яўнае марнатраўства! — усклікае тав. Кудла. — Сена гніе тут у стагах, а мы мелі толькі бяды прошлую зіму з кормам для жывёліны! Лаза займае тут дзесяткі гектараў асушаных, высокаякасных сенажацяў. А торф? Вядома, карысная рэч. Але дабываць яго трэба планава. Пры такой дабычы як тут, за некалькі год на цэлай змеліяраванай плошчы астануцца адны толькі ямы. Вазьміцеся за гэта, таварыш Міхалюк. Трэба прымусіць гаспадароў, каб планава, згодна з патрэбамі агратэхнікі карысталі з дабрадзействаў меліярацыі. І аб нааводненні не забывайце. Гэта зараз асноўная праблема. Жара вунь такая! Нельга дапусціць, каб трава высахла і сяляне не змаглі сабраць другога пакосу.



Гэта непакоіць сакратара...

Прайшоўшы кіламетраў 5, вяртаемся да нашай «Варшавы». Кароткі візіт у вёсцы Секлюкі. Тут праводзіцца дрэнаж палёў. Машыны рыюць равы, а рабочыя закладаюць керамічныя руры дрэны, па якіх у залежнасці ад патрэб вада будзе адплываць з палёў, альбо наплываць на палі. Там, дзе праходзяць равы, шмат знішчаных пасеваў. Гэта непакоіць сакратара.

— У будучыні, — звяртаецца ён да тав. Міхалюка, — нельга да гэтага дапусціць. Такой работай не толькі наводзім страты сялянам, але наогул знеахвочваем іх да слушнага і патрэбнага мерапрыемства. Неабходна дакладна інфармаваць сялян, калі і дзе на іх палях будзем праводзіць дрэнаж.

Чарговая мэта сакратаровага падарожжа — ПГР Вандалін. Заснаваны ён быў на развалінах былага маёнтку. Уся сядзіба ПГР-а завалена будульцам. Навакол рух, праца. ПГР у хуткім тэмпе разводзіць інвентарскія і жыллёвыя будынкі. На гэта прызначана тут звыш 2-х мільёнаў зл.

Кіраўніком ПГР-а з'яўляецца Аляксандр Барада. Запрашае нас у канцылярыю.

— Пакіньце канцылярыю мухам, — са смехам, але станоўча адказвае Станіслаў Кудла. — Вядзіце нас, таварыш, на сенажаці, у поле.

Ізноў скачам праз канавы. ПГР Вандалін мае 67 гектараў сенажацяў. Усе яны асушаны, штучна ўгноены. Плён у сярэднім па 30 цэнтнераў сена з кожнага гектара. Ёсць чым пахваліцца. Але... Зоркае вока сакратара глядзіць на шпаркі струмень вады ў канаве.

— Чаму, кіраўнік, не затрымалі ваду? Чаму не наваднаеце сваіх сенажацяў?

— Як жа? То ж зараз пасля ўборкі сена загадаў апусціць застаўкі, — тлумачыцца кіраўнік.

— Хлусіш, таварыш! Ідзем, пабачым.

Сапраўды застаўкі на перамычцы замкнутыя, але вада прарываецца пад імі і бурліць па баках.

— Ну, дык гэта не работа! — злуецца сакратар. — Паглядзі, вунь у вас якія прасторы сенажацяў! Так «спраўнымі» застаўкамі вы іх высушыце на перац. А я хацеў, было, ужо вас хваліць.

— Зраблю, напраўлю, яшчэ ў тым тыдні напраўлю, — гаворыць цалкам збянтэжаны кіраўнік.

— Не ў гэтым тыдні, як гаворыце, але яшчэ заўтра! — загадвае сакратар і цікавіцца ўраджаем жыта.

— Цэнтнераў 10—12 з гектара будзе, — адказвае кіраўнік.

— Што ж тады вашы суседзі — сяляне сказалі б? Вядзіце на поле. Сам пабачу.

Трактарная снапавязалка роўнымі радамі рытмічна выкідае павязаныя снапы. За ёй застаецца высокая, шчыльная сцяна жыта. Цяжкае, доўгае калоссе гнецца да зямлі.

— Ну, дык загнулі вы, таварыш, мне хлусню, — гаворыць сакратар. — Тут жа не менш 20-ці цэнтнераў з гектара будзе.

— Вы мяне так ужо сёння «правучылі», таварыш сакратар, што не адважыўся хваліцца. Менш 20-ці цэнтнераў з гектара асноўных чатырох збожжавых культур не спадзяваюся атрымаць, — сцвярджае кіраўнік і твар яго яснее ўсмешкай.

— Вось так павінна і быць! — па-сяброўску развітаючыся з кіраўніком, гаворыць сакратар. — Толькі больш дбайнасці на сенажаці.

Абед запланавалі мы ў гасподзе ў Боцьках. Прыйшлося аднак задаволіцца кубкам піва і пачкам пячэння. Нічога больш не было.

Сакратара цікавіў яшчэ адзін меліярацыйны аб'ект, які знаходзіцца непадалёк вёскі Нурэц. Паехалі туды. Аднак дождж перашкодзіў у больш дакладным пазнаямленні з гэтым аб'ектам. Скрунулі тады крыху ўбок і ў вёсцы Грэдэлі адведалі старога партыйнага дзеяча Аляксандра Лушчынскага, старшыню мясцовай ГРН. Расказваў ён сакратару аб пабудове грамадскім чынам дарог і крамаў, аб жыцці сялян, аб працы членаў партыі. Пасля дзвюхгадзіннай сяброўскай гутаркі адправіліся мы ў Беласток. Была восьмая гадзіна вечара. Працавіты дзень сакратара ўрэшце закончыўся. Гэта быў нармальны дзень яго працы. Не першы і не апошні такі дзень. Сакратар кожную такую паездку лічыць для сябе як добрую лекцыю складанага партыйнага кіраўніцтва сельскай гаспадаркай.

**ВІКТАР РУДЧЫК**
Фота аўтара



Некалькі год таму была тут непраходная дрыгва...

# УСЕ ЯК АДЗІН

Бельскі беларускі ліцэй можа пахваліцца не абы якім дасягненнем. У мінулым школьным годзе, як мы ўжо падавалі, у Бельскім беларускім ліцэі ў адзінаццатых класах вучылася 58 вучняў. Усе яны былі дапушчаны да экзаменаў на атэстат сталасці і ўсе як адзін здалі гэты экзамен са здавальняючай ацэнкай.

У практыцы сярэдняй школы гэта вельмі рэдкі выпадак, каб усе абітур'енты былі дапушчаны да экзаменаў, а тым больш, каб здалі гэты экзамен. У шматгадовай гісторыі Бельскага беларускага ліцэя гэта толькі другі выпадак. Першы раз усе вучні адзінаццатага класа атрымалі атэстат сталасці ў 1952 годзе.

Папулярнасць Ліцэя расце з кожным годам. Сведчыць аб тым хаця б той факт, што ў б. г. не будзе асенняга дабавачнага набору ў восьмы клас. Ужо летам на адно свабоднае месца ў восьмым класе прыпадала па дзве кандыдатуры.

Асеннюю рэкрутацыю ў восьмы клас будзе яшчэ праводзіць беларускі ліцэй у Гайнаўцы. Зацікаўленыя выпускнікі пачатковых школ маюць тады нагоду скарыстаць з гэтай магчымасці. (вр)

---

ужо на нармальнай хуткасці. Пачуўся барытон генерала Зэйферта.

«Сядайце, панове» — сказаў ён.

Прысутныя насцярожыліся. «Панове» значыла, што Зэйферт вярнуўся не з адным толькі Упіцам.

Голас Зэйферта запрапанаваў сігарэты. Хрыплы бас адказаў, што цярпець не можа лёгкіх французскіх сігарэт.

— Упіц? — спытаў Перцаў.

Аскер кіўнуў.

У дынаміку пачуўся трэці голас.

«Паспрабуйце мае, — прагаварыў ён, — ручаюся, што спадабаюцца. Гэта «Чэстэрфільд».

— Тэдар, — сказаў Перцаў.

Па знаку Аскера Штырава пачала стэнаграфаваць. Вось што яна запісала.

Зэйферт. Ну, якое ўражанне?

Тэдар. Я не чакаў сустрэць толькі вынаходства. Сховішча сапраўды недаступнае для пабочных. Але як здарылася, што аб ім даведалася разведка рускіх?

Зэйферт. Гэта пакуль не высветлена. Несумненна адно: у іх недакладныя звесткі. Таму нам удалося збіць іх са следу. Цяпер яны палююць за архівамі ў Остбургу і хутка будуць ліквідаваны.

221

Тэдар. Думаеце, што гэта найлепшае вырашэнне?

Упіц. Яны дастаткова доўга былі на свабодзе.

Тэдар. Пакуль яны дзейнічаюць, іх шэфы будуць чакаць і наўрад ці зоймуцца закідкай новых разведчыкаў у гэты раён. Не, я б не толькі не рушаў іх, але нават падкідваў час ад часу «доказы» таго, што яны на правільным шляху.

Зэйферт. Слушна.

Упіц. Прызнацца, я і сам думаў аб гэтым...

Тэдар. Значыць, усё добра. Умовімся, што вы так і зробіце. Цяпер аб сваім ад'ездзе. Я пакіну вас заўтра. Мяне чакаюць іншыя справы. Аперацыю з архівамі правядзем у працягу месяца або двух.

Упіц. Тут з імі нічога не здарыцца да самога канца вайны.

Тэдар. Справа не ў тым. Мы проста не можам так доўга чакаць. Архівы павінны пачаць служыць нам задоўга да таго, як закончацца ваенныя дзеянні.

Зэйферт. Але...

Тэдар. Спрачацца няма сэнсу, генерал. Такі загад. Ці гарантуеце, што архівы ні ў якім выпадку не крануцца з месца?

Зэйферт. Так, пакольк гэта залежыць ад нас.

222

Тэдар. Я нешта не вельмі добра разумею...

Упіц. Суседнія раёны падвяргаюцца моцнай апрацоўцы з паветра. Над імі вісяць сотні бамбардзіроўшчыкаў — амерыканскіх і брытанскіх. Лётаюць і рускія.

Тэдар. Не бачу сувязі.

Упіц. У Карлслусце ваенныя заводы, мост праз Эльбу. Іх ужо некалькі раз бамбілі. Найменшая недакладнасць...

Зэйферт. Так, дастаткова двух-трох бомб, якія ўпадуць у раёне сховішча, і ўсё падымаецца ў паветра.

Тэдар. Карлслуст і яго аколіцы бамбіць не будуць.

Упіц. Застаюцца яшчэ рускія.

Тэдар. Тут я бяссільны.

Упіц. Мы самі зробім захады, калі здарыцца нешта непрадбачанае. Але як з вамі звязацца?

Тэдар. Я ўжо думаў аб гэтым. І вырашыў адкрыць вам аднаго чалавека.

Зэйферт. Ён тут, у Карслусце?

Тэдар. Тут... Падсуньце блакнот і дайце ручку.

(Працяг на стар. 4)

223



 

 

Весткі, БССР

# КАЛМАТЫЯ ГАДАВАНЦЫ



На Магілёўшчыне, недалёка ад вёскі Вільчыцы, у сасновым бары, размясцілася звераферма лісіц Аблспажыўсаюза.

— У зверагадоўлі галоўнае — правільна падабраць кармы. Ад гэтага залежыць якасць футра, выхад маладняку, далейшы рост і развіццё яго. Кармавы рацыён складаецца з улікам узросту звера. Напрыклад, дарослыя лісіцы атрымліваюць на дзень столькі кармоў, што складаюць каля 600 вялікіх калорый. У рацыён маладняку і племяннога пагалоўя ўводзяцца вітамінныя кармы: рыбны тлушч, дрожджы, малочныя прадукты, касцяная мука.

Тут кідаюцца ў вочы роўныя рады драўляных домікаў. Пярэдняя частка і дно кожнага з іх абцягнуты металічнай сеткай, а задняя зроблена з дошак і нагадвае пчаліны вулей. Там звяркі хаваюцца ад непагоды. У такіх доміках — клетках размясціліся серабрыста-чорныя лісіцы і блакітныя пясцы.

На звераферме 572 серабрыста-чорныя лісіцы і 163 блакітныя пясцы. У студзені забіта на футра 886 серабрыста-чорных лісіц і 704 блакітныя пясцы. Даход склаў 18 тысяч 575 рублёў.

Для паляпшэння пароды звяроў на ферму завозяцца самцы і самкі з іншых зверагаспадарак. Сёлета з Латвіі завезены пясец — нарвежскі.

Гэты пясец вельмі выгодны. Ён добра пераносіць няволю і пладавіты. Самка дае ад 10 да 15 шчанят. Футра яго каштуе значна даражэй, чым блакітнага пясца або серабрыста-чорнай лісіцы.

Праходзячы па супрацьлегламу баку фермы, як па маленькіх вулачках нас папярэджваюць:

— Размешчаны самкі з дзецьмі і шчэнныя. Ім патрэбен спакой і цішыня.

М. Д. Белаханава арганізуе працу звераводаў, плануе кармленне, удасканальвае кармавы рацыён, вызначае гатункаваць шкурак. Свой вопыт яна ахвотна перадае маладым звераводам.

## У СВЕЦЕ НАВУКІ І ТЭХНІКІ

### ЭЛЕКТРАСТАНЦЫЯ У ПАВЕТРЫ

Тыя, хто быў на поўдні, маглі бачыць ветраныя млыны ў аколіцах сёл. Раней іх было больш. Электрычнасць выцесніла вецер не таму, што яна танная, а таму, што ветраныя млыны нязручныя: няма ветру, і ён стаіць. Але, аказваецца, ёсць такія месцы, дзе вецер дзьме пастаянна і з вялікай сілай. Гэта граніца трапасферы і стратасферы. Тут дзьмуць вятры, энергія якіх у 1000—2000 разоў большая, чым у прыземным слоі. Гігантскія патоки ветраных патокі на вышыні 10—12 кіламетраў над зямлёй нясуцца з хуткасцю 25—30 метраў у секунду.

Савецкія інжынеры стварылі арыгінальны праект вышынай электрастанцыі (ГВЭС). Вялізныя аэрастаты ўзнімаюць у паветра 30-тонныя агрэгаты ветраных электрастанцый і з вышыні 10 — 12 кіламетраў шлюць ток на зямлю. Кошт электраэнергіі, атрыманай такім шляхам, будзе ў пяцьшэсць разоў танней, чым з цеплаэлектрастанцый. Магутнасць станцыі — 1,5—2 тысячы кілават. Гэта значыць, яны могуць задаволіць патрэбы саўгасаў, пасёлкаў, промыслаў, аддаленых ад ліній электраперадач.

### НА ПОЕЗДЗЕ ПАД ВАДОЙ

Японія размешчана на тысячы астравоў. У сувязі з гэтым чыгуначныя зносіны тут вельмі складаныя: многа пераваланых пунктаў, марскіх паромаў. Эксперты падлічылі, што будаўніцтва тунеляў пад марскім дном больш выгадна, чым цяпер існуючая арганізацыя чыгуначнага транспарту.

Пачаліся ўжо работы па пракладцы буйнейшага ў свеце чыгуначнага тунеля пад марскім дном, які злучыць гарады Ао Моры (востраў Хансю) і Хакадаце (востраў Хакайда). Даўжыня тунеля — каля 36,5 км. З іх 22 км будуць праходзіць пад марскім дном.

### ПЧОЛЫ НЕ ГІНУЦЬ

Пчаліны яд у выглядзе розных прэпаратаў у апошні час знаходзіць шырокае прымяненне ў медыцыне. Яго дабратворны ўплыў пры радзе захворванняў стаў агульнавядомым. Але многія, відаць, не ведаюць, што здабыча яго звязана з гібеллю пчол. Уджаліўшы — пчала гіне. Як жа зрабіць так, каб пчолы былі цэлыя і забяспечыць фармацэўтычную прамысловасць каштоўнай лячэбнай сыравінай?

На гэтае пытанне дала адказ група амерыканскіх хімікаў, якая распрацавала спосаб атрымання яду ў пчол без гібелі насякомых. Ён заключаецца ў тым, што пчол аностызуюць пры дапамозе вокісу вугляроду, затым загортваюць у алюмініевую фольгу, злучаную з крыніцай току. Імгненна ток выклікае выдзяленне яду. Пасля гэтай працэдуры пчалу «ажыўляюць» і яна працягвае займацца звычайнай справай — збіраць мёд.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

# ПРАПАЎШЫЯ СКАРБЫ

На дне мораў і акіянаў ляжыць тысячы затопленых караблёў, у якіх знаходзяцца вялікія скарбы. Пра такія караблі вядома ў Чорным і Міжземным марах, у Атлантычным і Ціхім акіянах.

У 1702 годзе кароль Францыі Людовік XIV пасадзіў на іспанскі трон свайго ўнука Філіпа V Казна новаспечанага караля, на жаль, была зусім пустая. Для ліквідацыі фінансавага крызісу ў Іспанію з Гаваны (Куба) адпраўлена французскую эскадру пад камандаваннем Шата-Рэна. У яе склад уваходзілі ёмістыя іспанскія галёны, нагружаныя перламі, ізумрудам, серабром у злітках, залатымі самародкамі, сярэбранымі і залатымі манетамі, і ўсякімі іншымі каштоўнасцямі. Ля Азорскіх астравоў Шата-Рэна сустрэўся са спецыяльна высланым да яго прыдворным гонцам, які паведаміў, што варожы англа-галандскі флот у складзе 150 караблёў прытаіўся ля берагоў інспанскай правінцыі Андалузіі.

У сувязі з гэтым Шата-Рэна склікаў нараду капітанаў свайго «Залатога флота», на якой вырашана змяніць курс у напрамку заліву Віго. 22 верасня 1702 года «Залаты флот» увайшоў у гэты заліў. Аднак услед за ім паявілася англа-галандская армада і пачалася нароўная бітва. Французскія караблі загінулі, а іспанцы самі падпалілі свае галёны.



У 1955 годзе слаўны французскі вадалаз Флаpан Рамажэ задумаў знайсці гіганцкія скарбы ў заліве Віго. Усё ж не ўдалося яму нічога адкрыць.

20 мая 1922 года на моры ў 50 кіламетрах на паўночна-захадняга ўзбярэжжа Францыі затапіўся англійскі акіянскі карабель «Іджыпт». У ім знаходзілася 1089 зліткаў золата, 1229 зліткаў серабра і 164279 фунтаў стэрлінгаў у золаце. Увесь гэты велізарны капітал англійскі банк адпраўляў сваім філіялам у Індыі.

Пошукі пачаліся зараз жа пасля катастрофы і працягнуліся да 1933 года. «Іджыпт» затануў на вялікай глыбіні і таму цяжка было прабрапца да яго нутра.

Ужо больш сто год малы востраў Какос, які належыць да сярэднеамерыканскай рэспублікі Коста Рыка, называюць востравам Скарбаў.

Тут у XIX ст. хавалі нарабленае багацця слаўвутыя піраты Дамп'е, Пірат Беніта, Шкот Томпсан. Даследваннем іхніх сховішчаў займаліся такія сур'ёзныя людзі, як Мэлкам Кемпбел, Ф. Д. Рузвельт, былы прэзідэнт ЗША, і інш.

Дакладна ўстаноўлена, што ў 1820 годзе пірат Шкот Томпсан «аблягчыў» іспанскіх багатыроў і свяшчэннікаў, якія ў паніцы ўцякалі з Лімы (Перу) у час народна-вызваленчага руху. Награбленае ім золата і каштоўнасці, вартасць якіх даходзіла да 30 мільёнаў долараў, схаваў на Какосе. Томпсан не здолеў скарыстаць з усяго гэтага дабра.

Пазней было шмат спроб адшукаць скарбы на Какосе, але гэта ніяк не ўдаецца.

Зрэшты, не толькі ў мулаватых днах мораў : на астравах схаваны фантастычныя скарбы, якія безупынна маняць аматараў, прыгоды і хуткага ўзбагачэння. Ад некаторага часу ў Францыі адбываюцца пошукі скарбаў свяшчэнніка Беранжэ Соньера з Рон-ле-Шата, празванага Кюрэ-мільярдэрам. Ён разбагацеў пры таямнічых акалічнасцях, дагэтуль не высветленых. Пры жыцці Кюрэ-мільярдэр паспеў скарыстаць усяго толькі невялічкую частку сваіх скарбаў. Яго таямніцу ведаў адзін чалавек, яго эканомка і каханка — нейкая мадам Мары Дэнарна. У яе, як і ў свяшчэнніка, не было свяякоў. 18 студзеня 1953 года яна раптоўна памерла, забіраючы ў магілу таямніцу скарбаў.

Афрыка і Амерыка не менш багатыя скарбамі, але яшчэ больш багатыя легендамі пра скарбы. Пакуль на свеце будуць грошы, не зменіцца і псіхалогія людзей Аматары дармовых багацця заўжды знойдуцца.

(а-ся)

# МОДА



**ВЫСОКІХ І ШЧУПЛЫХ**

**Ніз сукенкі павінен быць шырокі. Калі складаецца з дзвюх частак — тады з даўжэйшым верхам. Вялікія ўзоры.**



**НІЗКІХ І ШЧУПЛЫХ**

**Старацца насіць сукенкі. Калі з дзвюх частак — даволі кароткі верх. Ніз больш вузкі. Талія ў нармальным месцы, або крыху павышана. Невялікія ўзоры.**



**НІЗКІХ І ТОЎСТЫХ**

**Мадэлі аб простай лініі, або толькі крыху пашыраныя ўнізе. Модныя сукенкі — кашулі. Невялікія ўзоры.** а(лів)



 

